ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№6 (27) чэрвень 2013 год
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
Кошт свабодны

# АДЗІНСТВА З БОГАМ

**У парафіі св. Антонія і Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі ў Паставах 9 чэрвеня адбылася адпустовая ўрачыстасць. Шматлікія вернікі сабраліся ў святыні, каб ушанаваць свайго нябеснага заступніка св. Антонія Падуанскага.**

**с. Марына Брылёнак**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



На свята прыбыў асаблівы госць – Апостальскі Адміністратар Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель, які падчас Эўхарыстыі ўдзяліў сакрамант Канфірмацыі вернікам пастаўскай парафіі. На пачатку літургіі кс. Анджэй Возьняк, пробашч парафіі, сардэчна прывітаў усіх прысутных гасцей і запрасіў да супольнай малітвы.

У гаміліі ксёндз-прэлат Францішак заклікаў усіх прысутных да адзінства з Богам, да поўнага даверу Яму, бо “толькі тады мы зможам быць сапраўднымі сведкамі Хрыста, змяняць не толькі сябе, але свае сем'і і нашу краіну, каб былі больш святымі”. “Трэба памятаць, што Бог, даючы нам выпрабаванні і цярпенні, спасылае патрэбныя ласкі, бо пакуты не вечныя, а часовыя. І гэту дапамогу Ён дае нам менавіта ў сакрамантах, каб пераадолець усё”, – прамовіў Апостальскі Адміністратар і заахвоціў усіх прысутных маліцца, каб “Божыя запаведзі не былі цяжарам, але патрабаваннем душы”.

Пасля святочнай Літургіі адбыўся канцэрт, падрыхтаваны парафіяльнай моладдзю. На працягу ўсёй урачыстасці адчувалася сапраўднае адзінства парафіі.

# Святар у школе

**Кс. Андрэй Кулік, пробашч парафіі ў в. Канстанцінава (Глыбоцкі дэканат Віцебскай дыяцэзіі), 30 мая па запрашэнні педагагічнага калектыву наведаў школу ў в. Карабы. Святару было прапанавана выступіць перад вучнямі.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*



Кс. Андрэй у прамове нагадаў прысутным пра ўдзячнасць да Бога, Які адорвае нас сваімі дарамі. Ён заахвоціў дзяцей і моладзь не марнаваць таленты. Святар прыпомніў таксама, што час летняга адпачынку трэба выкарыстоўваць разважліва, не забываючыся пра абавязак наведвання касцёла ў нядзелі і святы. Кс. Андрэй падарыў таксама школе канцылярскія прылады. Яны будуць вельмі дарэчы якраз падчас правядзення школьнага летніка.

Падчас лінейкі таленавітыя і працавітыя вучні атрымалі ўзнагароды і дыпломы за поспехі ў алімпіядах. Выступілі таксама іншыя шаноўныя госці і настаўнікі. З вуснаў старэйшых можна было пачуць словы зычэнняў у адрас выпускнікоў Карабоўскай школы. Дырэктар Таццяна Вячаславаўна Гаўрылава падзякавала педагагічнаму калектыву за працу на працягу навучальнага года, а вучням пажадала поспехаў на цэнтралізаваным тэставанні і экзаменах.

Святочны дзень для вучняў-католікаў і зацікаўленых з іншых канфесій пасля канцэрта ў будынку школы працягнуўся ў касцёле. Святую Імшу адправіў кс. Андрэй Кулік. Яму прыслужвалі міністранты – вучні Карабоўскай школы. Імшальныя чытанні і псалмы чыталі і спявалі школьнікі і іх настаўнікі. У працэсіі з дарамі яны прынеслі да Божага алтара свае кнігі, заплечнік і мячык – тое, без чаго немагчыма ўявіць вучня.

Кс. Андрэй Кулік, прамаўляючы да сабраных вернікаў, нагадаў, што вялікім клопатам Касцёла ёсць данесці праўду пра збаўленне кожнаму чалавеку. Ён сказаў пра неабходнасць развіцця ў духоўным сэнсе і запрасіў дзяцей і моладзь наведваць касцёл часцей.

**Спадчына**
Пра Папшыцкую намётку чытайце на стар. 6-7



**Пытанні**
Чаму Касцёл супраць кантрацэпцыі?
Старонка 3



**Інтэрв'ю**
40 год без Бога. Гісторыя верніка.
Старонка 4



**Глыбокае**
Еднасць парафіі.
Старонка 4



**Капуцыны**
Ордэн – значыць сям'я.
Старонка 3



Віцебск



# Разам з Хрыстом

**Святары, манахіні, прадстаўнікі духавенства ўсходняга абраду, мясцовыя парафіяне, а таксама вернікі з розных куткоў дыяцэзіі прыбылі ў Віцебск 1 чэрвеня, каб разам перажыць сустрэчу з жывым Езусам, прысутным у Эўхарыстыі. Урачыстасць узначаліў кс. Францішак Кісель, Апостальскі Адміністратар Віцебскай дыяцэзіі.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст і фота*

Падчас Святой Імшы кс. Віктар Місевіч прамовіў гамілію, прыгадаў вернікам пра Эўхарыстыю, у якой Бог хоча быць ежай, хоча моцна наблізіцца да чалавека, хоча прысутнічаць сярод людзей заўсёды.

"Адпаведна і мы, калі так цэнім Божую любоў, Божую ахвярнасць, павінны задаць сабе пытанне: а што я магу зрабіць дзеля Бога? Які павінен быць мой крок Яму насустрач? Чаго яшчэ чакае ад мяне Езус, калі ўжо я адказваю Яму вуснамі словам "Амэн", што азначае: так, згодны?" – над гэтымі пытаннямі разам са святаром разважалі вернікі.

Ксёндз Віктар звярнуў увагу на Евангелле, называючы яго рэчаіснасцю, у якой Езус кажа: той, хто спажывае маё Цела і п'е маю Кроў, будзе жыць вечна. "Той, хто прымае ўдзел у Эўхарыстыі, той, хто вуснамі падчас Св. Камуніі адказвае "Амэн", той, хто сапраўды з'яўляецца часткай Хрыстовага Містычнага Цела, атрымае не казачнае каралеўства, а сапраўднае вечнае Нябеснае Валадарства", – дадаў ксёндз.

Пасля Імшы распачалася працэсія па вуліцах Віцебска. Вялікая колькасць католікаў прайшла па горадзе ад катэдры Езуса Міласэрнага да касцёла Святога Духа, даючы сведчанне аб найвялікшай таямніцы веры, якой з'яўляецца Эўхарыстыя.

Працэсія завяршылася спевам "Цябе, Бога, праслаўляем" і благаслаўленнем Найсвяцейшым Сакрамантам.

Напрыканцы кс. Францішак Кісель падзякаваў вернікам за шчырую малітву, за сумеснае перажыванне свята, а таксама за арганізацыю ўрачыстасці.



## Рэдакцыя дзякуе!

Дарагія сябры! Мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто падтрымлівае газету сваімі ахвяраваннямі. Вы пра нас заўсёды памятаеце! Няхай добры Бог вас блаславіць, а Марыя, наша нябесная Заступніца, няспынна вамі апякуецца!

Кожную першую суботу месяца за ўсіх ахвярадаўцаў, супрацоўнікаў і аўтараў газеты адпраўляецца святая Імша. Гэтым разам свае ахвяраванні нам даслалі: **Аліцыя** (г. Паставы), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Тадэвуш Ткачонак** (г. Глыбокае), **Ірына і Віктар Муляронак** (г. Глыбокае), **сям'я Рысевых** (г. Глыбокае), **Антаніна Альхімовіч** (в. Карабы, Глыбоцкі р-н), **Марыя Матус** (г. Валожын), **Вольга Парневіч** (г.п. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Генадзь Бервячонак** (г. Глыбокае).

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Адышла ў вечнасць...

**8 чэрвеня адышла ў вечнасць Гэлена Блін – маці біскупа Віцебскага на пенсіі Уладзіслава Бліна. Спачылай было 87 гадоў.**

Пахавальная святая Імша адбылася 11 чэрвеня ў парафіяльным касцёле святых Мікалая і Добрага Пастыра ў Слезіне каля Коніна (Польшча).

Прадстаўніком Віцебскай дыяцэзіі на пахаванні быў кс. Адам Дынак – канцлер дыяцэзіі і пробашч Віцебскай катэдры.

Заахвочваем чытачоў газеты «Каталіцкі Веснік» памаліцца за святой памяці Гэлену Блін. Выказваем шчырыя спачуванні біскупу Уладзіславу Бліну і ўсім блізкім спачылай.

***Вечны адпачынак дай ёй, Пане...***

# Сколько верующих в Беларуси?

**Вероисповедания граждан различных государств и стран в силу их исторического развития и текущего момента могут заметно отличаться. Более того, условия функционирования общества вносят коррективы в численность как представителей различных религиозных конфессий, так и лиц, не относящих себя к конкретным вероисповеданиям. Сказанное, думается, в полной мере касается и Республики Беларусь.**

**Леонид Михейчиков**, *TUT.BY*

В ходе общенационального опроса, проведенного в марте-апреле текущего года, сотрудники социологического центра ООО «ЗЕРКАЛО-ИНФО» предложили жителям Беларуси вопрос: **«Относите ли вы себя к какому-либо вероисповеданию? Если да, то к какому именно?»**

Как было известно и ранее, сегодня крупнейшей христианской конфессией в Беларуси является православие. Две трети – 68% горожан и сельчан – указали, что относят себя к православию.

Среди приверженцев православия больше женщин (57%). 60% составляют люди в возрасте 40 лет и старше. Около половины (45%) – это жители сёл и небольших городов с числом проживающих до 70 тысяч человек. Каждый второй сторонник православия – это житель Брестской, Гомельской и Минской областей (вместе 50%).

Второй конфессией по численности верующих в Беларуси является католическая. Каждый седьмой респондент указал, что исповедует католицизм (14%).

Среди сторонников этой христианской конфессии также преобладают женщины (55%). Подавляющее большинство (82%) – люди в возрасте 30 лет и старше. Относительно православия, среди сторонников католицизма больше лиц со средним образованием и меньше – с базовым. Как и в православии, около половины католиков (47%) – жители сёл и небольших городов с числом населения до 70 тысяч человек. Основное количество приверженцев католического вероисповедания (83%) – граждане, проживающие в Минске, Витебской, Гродненской и Минской областях.

Представителей других вероисповеданий (протестантизм, иудаизм, ислам, буддизм, индуизм) на территории Беларуси проживает немного.

Лишь 4% респондентов считают себя атеистами. Среди них большинство мужчин (68%). Около половины (45%) – люди в возрасте 30-39 лет и старше 60 лет. Незначительно выделяются лица с высшим образованием, ИТР и работники творческих профессий.

8% опрошенных горожан и сельчан указали, что не относят себя ни к какому вероисповеданию. Среди них превалируют мужчины (60%). Более трети (35%) – юноши и девушки 18-29 лет. Каждый четвёртый с высшим образованием (24%), а каждый шестой (18%) – с базовым. Более половины (56%) лиц, заявивших, что не относят себя ни к какому вероисповеданию, – жители Витебской и Гомельской областей.

Только 3% опрошенных горожан и сельчан затруднились ответить на предложенный вопрос. Более половины здесь мужчины (60%) и более трети (38%) – молодые люди 18-29 лет. Треть – 33% – это жители Гомельской и Гродненской областей.

**Относите ли вы себя к какому-либо вероисповеданию? Если да, то к какому именно? *(Один ответ, в %)***

Православие – 68
Католицизм – 14
Другое – 3
Не отношу себя ни к какому вероисповеданию – 8
Атеист – 4
Затрудняюсь ответить – 3

**Примечание.** Общенациональный зондаж общественного мнения проведен 29 марта – 17 апреля 2013 года социологическим центром ООО «ЗЕРКАЛО-ИНФО». Метод опроса – интервьюирование-анкетирование жителей Беларуси в возрасте 18 лет и старше. По пропорционально-квотной выборке опрошено 3000 респондентов. Контролируемые параметры: область проживания, тип населённого пункта, пол, возраст, образование. Ошибка репрезентативности не превышает 0,6%.

# Ордэн – значыць сям'я

**У Верхнядзвінскім касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі 25 мая адбылася важная і вельмі радасная падзея. У супольнасці меншых братоў капуцынаў бр. Андрэй Шастакоў склаў Богу свае вечныя манаскія шлюбы.**

**Вікторыя Колзун**, *тэкст;* **Андрэй Чагадаеў**, *фота*

Падчас Святой Імшы, якую ўзначаліў віцэ-правінцыял капуцынаў у Беларусі айцец Андрэй Жылевіч, брат Андрэй Шастакоў урачыста паабяцаў да канца свайго жыцця жыць у чысціні, беднасці і паслухмянасці, наследуючы самога Езуса Хрыста і жывучы па прыкладзе святога Францішка з Асізі.

У гаміліі, якую прамовіў айцец Стэфан Кожух, генеральны вікарый ордэну меншых братоў капуцынаў, ён зазначыў, што чалавек ніколі не бывае адзін, бо мае кроўную роднасць з самім Панам Богам. А таксама дадаў, што брат Андрэй, уступіўшы ў закон, здабыў вялікую сям'ю, якая моцна яго любіць.

Айцец Андрэй Жылевіч, віцэ-правінцыял ордэну, са свайго боку запэўніў, што новы брат ужо стаў часткай вялікай сям'і братоў-капуцынаў і заўсёды можа разлічваць на падтрымку і дапамогу.

На ўрачыстасць вечных шлюбаў прыбыло шмат святароў, братоў-капуцынаў, законных сясцёр, замежных гасцей, а таксама вернікаў мясцовай парафіі. Падчас святкавання адчувалася атмасфера любові і паразумення, быццам кожны быў часткай вялікай францішканскай сям'і.

*"...Радуйцеся заўсёды ў Пану. Яшчэ раз кажу: радуйцеся! Лагоднасць ваша няхай будзе вядомая ўсім людзям..." (Філіп. 4, 4-5)* – гэтыя словы змясціў на сваім памятным абразку бр. Андрэй Шастакоў. Віншуем брата з прыняццем вечных манаскіх шлюбаў і жадаем яму праз усё сваё жыццё адчуваць гэтую сапраўдную радасць ад прысутнасці Пана!



# Андрэй Баболя – апякун Беларусі

**У Лучайскім касцёле 18 мая адбылося адно з галоўных парафіяльных святаў – фэст Св. Андрэя Баболі. Яно прайшло з асаблівым размахам: сёлета спаўняецца 75 гадоў з часу кананізацыі каталіцкага Святога.**

**Іна Сняжкова**, *тэкст;* **Альфрэд Мікус**, *фота*

Фэст сабраў незвычайна вялікую колькасць вернікаў. Напачатку яны ўдзельнічалі ў Святой Імшы, якую правёў запрошаны з Наваполацка госць – ксёндз Аляксандр Чайкоўскі. Прадоўжылася ўрачыстасць асвячэннем фігуры апостала Якуба Старэйшага, усталяванай напярэдадні ля касцёла св. Юды Тадэвуша. Потым вернікі слухалі глыбокія філасофскія разважанні ксяндза Аляксандра пра пакутніцкую смерць Св. Андрэя Баболі.

Падчас Імшы прысутныя даведаліся, што Святы нарадзіўся ў 1591 годзе ў Польшчы, вучыўся ў Вільні ў езуіцкай і тэалагічнай акадэміях, у 1622 годзе стаў святаром. Служыў і працаваў у Нясвіжы, Бабруйску, Варшаве, Вільні, Пінску...

16 мая 1657 года падчас вайны Расіі і Рэчы Паспалітай быў схоплены ўкраінскімі казакамі і люта замучаны. Нягледзячы на катаванні, святар не адрокся ад ідэі еднасці хрысціян.

Андрэй Баболя лічыцца адным з нябесных апекуноў Польшчы і Беларусі, з'яўляецца галоўным заступнікам Пінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі.

Памяць мучаніка ўшаноўваецца і ў Лучаі: у яго гонар тут штогод ладзяцца фэсты. Сёлета на ўрачыстасць былі запрошаны яркія і таленавітыя госці з Шаркаўшчыны: артысты раённага Дома культуры, хор ветэранаў працы «Надзея», цыркавы калектыў "Мара", дзіцячы калектыў «Маленькая фея», супрацоўнікі Дома рамёстваў, клуб нацыянальнай кухні "Груца", літаратурна-музычнае аб'яднанне "Світанак", клуб "Жаночы час". Ля касцёла дзейнічала імправізаваная мастацкая выстава з карцінамі майстроў Віцебшчыны.

Выступоўцы з Шаркаўшчыны падарылі вернікам песні, танцы, вершы, акрабатычныя нумары. Адным словам, атрымалася свята выдатнага настрою.

## ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

# Касцёл і кантрацэпцыя

*Как Католическая Церковь относится к контрацепции? Что делать, если кто-то из супругов болен СПИДом? И что говорит Церковь о таком виде контрацепции, как вазэктомия? Заранее спасибо за ответ.*

*Светлана, 23 года*

**На пытанне адказвае дыякан Аляксей Філіпенка, парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі, г. Мінск:**

– Авідон, ліндзінет, тры-рэгол, ярына, рэгулон, жанін, джэс – таблеткі, якія бессаромна ляжаць на вітрынах аптэк і выкарыстоўваюцца для папярэджання цяжарнасці – фізіялагічнага працэсу, у выніку якога яйцаклетка ў арганізме жанчыны ператвараецца ў дзіця. З пункту гледжання навукі і медыцыны, аральныя кантрацэптывы з'яўляюцца выдатным дасягненнем XX стагоддзя. Сапраўды, нашмат прасцей і лепш выпіць некалькі таблетак, каб не пачынаўся фізіялагічны працэс, чым рабіць аборт на трэцім месяцы цяжарнасці. Аднак хрысціянства ацэньвае маральнасць кожнага навуковага дасягнення, а Касцёл, абапіраючыся на Божыя запаведзі, вучыць, як выкарыстоўваць гэтыя дасягненні на дабро.

Пытанне кантрацэпцыі не новае ў гісторыі чалавецтва. Варта ўзгадаць грэх Анана (Быц. 38,9), пра які кажа Біблія, за тысячы гадоў да Хрыста. Памятаем, што за грэх, які сёння мы назвалі б "перарваны палавы акт", Бог пакараў Анана смерцю. У 60-я гады мінулага стагоддзя пашырылася выкарыстанне вышэйзгаданых гарманальных кантрацэптываў. Таму пытанне перашкоды для зачацця зноў стала актуальным. Энцыкліка папы Паўла VI "Humanae Vita" (HV, 8) (1968) стала своечасовым адказам на яго.

Вядома, энцыкліка не распавядае пра маральнае зло кантрацэптываў. "Humanae Vitae tradendae munus gravissimum..." – так пачынаецца Энцыкліка – перакладаецца як "вельмі важны дар перадачы чалавечага жыцця, дзякуючы якому муж і жонка становяцца свабоднымі і адказнымі саўдзельнікамі Бога-Творцы" (пераклад з польскай). Менавіта сужэнскай любові і адносінам паміж мужам і жонкай прысвечана большая частка дакумента. Сужэнскі акт павінен захоўваць сваё прызначэнне – перадаваць жыццё. Пра кантрацэпцыю коратка і ясна напісана ў п.14 Энцыклікі: забараняецца беспасярэдняя стэрылізацыя, пастаянная або часовая, і мужчынам (вазэктамія), і жанчынам. Забараняюцца любыя дзеянні, якія альбо ў чаканні сужэнскага акту, альбо падчас яго, альбо ў развіцці яго натуральных наступстваў будуць мець за мэту прадухіленне зачацця.

Такім чынам, Касцёл забараняе выкарыстанне кантрацэпцыі ў любым выглядзе. Акрамя таго, што вазэктамія – гэта сродак кантрацэпцыі, дык гэта яшчэ з'яўляецца і формай калецтва. Калецтва – пазбаўленне ад часткі арганізму – дапускаецца толькі ў выпадку, калі будзе выратаваны ўвесь арганізм. Чаго ў выпадку вазэктаміі не адбываецца. Таму мужчына, які пагаджаецца на аперацыю, робіць падвойны грэх.

Што датычыць сужэнца, хворага на СНІД, то спачатку трэба разабрацца, якім чынам і калі ён/яна захварэлі. У сучаснай гісторыі Беларусі вядома ўсяго толькі некалькі выпадкаў заражэння СНІДам падчас пералівання крыві. Выкарыстанне кантрацэпцыі, а дакладней, толькі аднаго яе віду – прэзерватыва, зніжае (не прадухіляе) рызыку захварэць на СНІД, паводле некаторых дадзеных, на 85%. Каталіцкі Касцёл вырашае праблему СНІДу не праз выкарыстанне прэзерватываў, а заахвочваючы да сужэнскай вернасці. Што датычыць іншых захворванняў, якія перадаюцца палавым шляхам, то падчас лекавання муж і жонка павінны адмовіцца ад палавога акту, а не карыстацца прэзерватывамі. Пэўны час сужэнцы, якія сапраўды кахаюць адно аднаго, здольныя пражыць і без сексуальнай блізкасці.

Вялікім выпрабаваннем для беларускіх жанчын-верніц сёння становіцца наведванне ўрача-гінеколага. Знайсці прафесійнага лекара яшчэ магчыма, знайсці прафесійнага лекара-верніка – гэта ўжо цуд. Тая лёгкасць, з якой гінеколагі прызначаюць кантрацэптывы, часам здзіўляе, а яшчэ больш палохае. Некаторыя раюць піць гарманальныя сродкі як вітаміны для прафілактыкі, іншыя палохаюць будучымі ўскладненнямі падчас цяжарнасці і таму абавязваюць выкарыстоўваць прэзерватывы. На некаторых жанчын аказваюць такі маральны ціск, што яны самі гатовыя пазбавіцца ад будучага мацярынства.

Кожны мужчына і кожная жанчына павінны ведаць, што шлюб не з'яўляецца вынікам якой-небудзь выпадковай падзеі ці эвалюцыі сляпых сілаў прыроды: Бог-Творца стварыў яго мудра і прадбачліва, каб рэалізаваць у людзях свой план любові (HV,8). Таму, мэта шлюбу – гэта пазнаванне Божай волі і рэалізацыя Яго задумаў ва ўзаемнай любові, нараджэнні і выхаванні дзяцей.



## Генадзь Бервячонак:

# Я быў вельмі ўражаны, якая вялікая сіла дабра!



**Генадзь Бервячонак – вернік парафіі Св. Тройцы ў Глыбокім. Ён таксама заснавальнік будаўнічай фірмы “Арыва” і актывіст дабрачыннай арганізацыі “Карытас”. Пра веру, навяртанне і будаўніцтва чытайце ў гэтым інтэрв’ю.**

*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*

**– Спадар Генадзь, адкажыце, калі ласка, што для Вас значыць верыць у Бога?**

– Думаю, што на гэтае пытанне рана ці позна кожны чалавек мусіць сабе даць адказ. У маім выпадку выйшла так, што я роўна 40 гадоў жыў без Бога. Не, я, вядома, бываў у касцёле разы два ў год. Памятаю, як мяне мама ў школьным узросце вадзіла на Св. Імшу. Але ў той час, лічу, у мяне не было сапраўднай веры. Я магу параўнаць сябе цяперашняга і сябе даўнішняга і зрабіць высновы. Сапраўднае навяртанне да Бога я перажываю толькі цяпер. Я назіраю часам у людзей памкненні да рэлігіі, да практыкавання сваёй веры. Але заўважаю, што гэтыя памкненні падобныя крыху да камерцыі кшталту: я Табе, Божа, малітвы, а ты мне – поспех, здароўе, дабрабыт... Гэта няправільна. Што тычыцца мяне, магу сказаць, што для мяне сёння вера ў Бога – гэта сэнс майго жыцця.

**– А раней які ў вас быў сэнс жыцця?**

– Да майго навяртання сэнс быў, але ён зводзіўся толькі да зямных справаў. Я імкнуўся больш зарабіць грошай. Калі задумваўся купіць машыну, хацеў, каб яна была добрай, не такая, як у іншых людзей. Сэнс заключаўся толькі ў матэрыяльных дабротах.

**– Што паўплывала на Вас? Чаму Вы вырашылі звярнуцца да Бога?**

– Я часта задумваюся над гэтым пытаннем. І думаю, што ўсё-такі майму навяртанню паспрыялі малітвы маёй мамы. Разумееце, быў такі час у маім жыцці, што я апынуўся ў тупіку. Я не бачыў выйсця. Я не ведаў, што далей. У мяне не было сілы, каб разабрацца ў сваім жыцці. Мне дапамагло заступніцтва маёй мамы, якая ўсё бачыла, перажывала за мяне і малілася. Бог пачуў яе малітвы.

**– Як выглядае Ваша рэлігійнае жыццё?**

– Я кожны дзень прачынаюся а 6-й гадзіне. І а 6.20 я пачынаю маліцца. Гэта доўжыцца каля трыццаці хвілін. Хачу сказаць, што не ад разу я палюбіў малітву. Дарога да Бога – гэта цэлы працэс, і ён патрабуе часу. Я спачатку пачаў хадзіць у касцёл, спрабаваў зразумець сутнасць набажэнстваў. І так пакрысе назбіралася трохі малітваў, якімі я малюся ў розных інтэнцыях.

**– Для Беларусі пабожны мужчына – гэта, хутчэй, рэдкасць, чым заканамернасць. Як Вы думаеце, чаму так адбываецца?**

– Цяжка адказаць на гэтае пытанне. Але я з Вамі згодны, што ў нас мужчыны не адчуваюць рэлігійнага абавязку. Шмат разоў назіраю, як хтосьці прывозіць сваю жонку або маці ў касцёл, а сам цэлую гадзіну сядзіць у машыне і чакае, замест таго, каб увайсці таксама ў святыню.

**– Як ставяцца Вашыя супрацоўнікі да Вашай пабожнасці?**

– Хачу адзначыць, што яны ставяцца даволі спакойна. Канешне, звяртаюць увагу, што я не хаваю сваёй веры. У нас у офісе вісіць абраз, які вандруе разам з намі ўжо трэці раз, паколькі фірма арандуе памяшканне. Не думаю, што супрацоўнікі часта бачаць мяне падчас малітвы, але, напэўна, ведаюць маё стаўленне да святароў і да Касцёла. Па меры магчымасці мы стараемся дапамагаць каталіцкім супольнасцям. Фірма “Арыва”, за якую я адказны, правяла будаўнічыя работы ў глыбоцкай парафіі, у Канстанцінаве. Дапамагалі таксама ў Мосары і маем планы правесці сур’ёзныя рамонтныя працы ў Удзеле. Дзякуючы нашай працы шпіталі ў Глыбокім і Падсвіллі маюць цяпер капліўкі для хворых.

**– Якія ў Вас мары?**

– Можа, хтосьці падумае, што я выказваюся з пафасам, але мне хочацца, каб людзі ў Беларусі сталі больш адкрытымі. Каб знікла між імі злосць, зайздрасць, падазронасць. Вельмі хачу, каб лепшым стала ўсё нашае грамадства. А пачынаць трэба толькі з сябе. Трэба самога сябе кантраляваць і стрымліваць у парывах гневу. Гэта складана. Хочацца на гняўлівае слова адказаць агрэсіяй. Але злом на зло адказваеш – і толькі павялічыцца колькасць гэтага зла. Неадночы я праводзіў такі асабісты эксперымент. Бывала, што ў нейкім офісе мне агрэсіўна адказвалі людзі. Я на гэта ўсміхаўся і стараўся гаварыць з імі ветліва. Я сам быў уражаны, якая вялікая сіла дабра. Пасля маіх ветлівых слоў чалавек мяняўся літаральна на вачах. Знікала злосць у яго.

**– Падаецца, што такі прынцып вельмі дарэчы ў працы ў калектыве?**

– Сапраўды, гэта вельмі неабходна, калі працуеш у адной камандзе. Калі да нас прыходзіць новы чалавек, я не пытаюся, наколькі ён добры спецыяліст. Я кажу яму: у цябе, напэўна, ёсць добрыя задаткі, таму, чаго ты не ўмееш, мы абавязкова цябе навучым. Гэта не праблема. Важна, каб ты навучыўся супрацоўнічаць з рэштай калектыву. Мы павінны быць адной камандай, каб не было нервовасці, крыку і непатрэбнай агрэсіі. Гэта замінае працы і нішчыць здароўе.

**– У будаўнічай сферы можна назіраць, што працаўнікі часта пакутуюць праз сваю залежнасць ад алкаголю. Ці змагаецеся Вы з гэтым і якім чынам?**

– Я вельмі добра разумею, што алкагалізм – гэта бяда і гэта хвароба чалавека. Вядома, падчас будаўнічых прац у фірме няма ніводнага чалавека, ад якога быў бы чутны перагар. Я строга да гэтага падыходжу. І папярэджваю загадзя, калі хтосьці мае праблемы з гэтым, каб пабыў пэўны час дома, пакуль працеверазее. Але таксама разумею, што гэтым людзям неабходная дапамога. Я стараюся, каб яны маглі нешта зарабіць на аб’ектах нашай фірмы, таму што ў іх ёсць сем’і, якія трэба карміць. А наогул у будучыні вельмі хацеў бы адкрыць спецыяльны дом для хворых на алкагалізм. Каб у гэтым месцы яны змаглі перамагчы сваю слабасць, праходзячы курс лячэння і атрымліваючы духоўную падтрымку з боку святароў.

**– Жадаю Вам поспехаў у працы і здзяйснення ўсіх Вашых мараў.**

– Дзякуй вялікі.

# Еднасць парафіі

**26 мая, ва ўрачыстасць Святой Тройцы, у глыбоцкай парафіі адбылася чарговая падзея – парафіяльны адпуст. Да гэтага дня рыхтаваліся загадзя: былі надрукаваныя і разнесеныя па дамах лісты да парафіянаў, гаспадыні пяклі “пірог Святой Тройцы”.**

**Алена Пажога**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



У нядзелю ў касцёле сабралася шмат парафіянаў і гасцей. На ўрачыстасці прысутнічалі святары з суседніх парафій і дэканатаў, а таксама прадстаўнікі раённай улады. Святую Імшу ўзначаліў Апостальскі Адміністратар Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель. На пачатку набажэнства пробашч парафіі кс. Мечыслаў Янчышын падкрэсліў значнасць Дня Святой Тройцы для парафіі.

У гаміліі, якую прамовіў кс. Антоній Земба з Браслава, звярталася ўвага на адзінства Святой Тройцы. Ксёндз Антоній параўнаў Святую Тройцу з сям’ёй, у якой ёсць некалькі асоб, раўназначных між сабою, але якія разам ствараюць адзіную сям’ю.

У працэсіі дароў да алтара былі прынесены абраз Святой Тройцы, кветкі, пірог, віно і вада, гостыя як сімвалы Божай прысутнасці ў чалавечым жыцці. На заканчэнне Святой Імшы ксёндз Францішак Кісель пасвянціў прынесеныя парафіянамі “пірагі Святой Тройцы”, каб потым прысутныя ў касцёле маглі падзяліцца імі ў сям’і і з іншымі блізкімі.

Старшыня райвыканкама Алег Віктаравіч Морхат павіншаваў кс. Мечыслава Янчышына з 25-годдзем святарства, пажадаў святару далейшага плённага служэння для людзей і грамадства і запэўніў у заўсёднай дапамозе мясцовай улады ў здзяйсненні высакародных спраў.

Урачыстасць аздабляў прыгожымі спевамі парафіяльны хор “Ave Maria”.

Пасля Святой Імшы адбылася працэсія на плошчы ля касцёла. Працягам святкавання стаў канцэрт музычнага ансамбля “Паазер’е” з Пастаў.

Гэтая падзея стала чарговым крокам на шляху аднаўлення і ўзмацнення парафіі.

## З Юбілеем!

*19 чэрвеня спаўняецца 50 гадоў з Дня нараджэння* ***кс. Анджэя Возьняка****. Амаль палову свайго жыцця – 23 гады святарства і 10 з іх у парафіі ў Паставах – ён прысвяціў служэнню Пану Богу і людзям.*

***Паважаны пробашч кс. Анджэй Возьняк!***

*Сардэчна віншуем Вас з 50-годдзем! Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, плёну ў нялёгкай працы. Няхай Добры Бог дапамагае, а Маці Божая апякуецца Вамі. Шчыра дзякуем Вам, кс. Анджэй, за штодзённую працу на хвалу Касцёла, за Ваша цярпенне і добразычлівасць да людзей, за Вашы малітвы і казанні.*

*Парафіяне касцёла св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ у Паставах*

# Ружанец на экзамен, або Як паспяхова скончыць ВНУ?

**У гэтым нумары“Каталіцкі Веснік” звярнуўся да выпускнікоў, якія сёлета закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы нашай краіны. Былыя студэнты адказалі нам, як яны падтрымлівалі сувязь з Богам падчас вучобы.**

*Ірына Грэйць*



**Андрэй Худы:**

– У гэтым годзе я заканчваю навучанне ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Я вучыўся на завочным аддзяленні. Хочацца сказаць, што за гэты час ва ўсіх сітуацыях Бог дапамагаў мне, калі я шукаў у Яго падтрымку. Сувязь з Богам я падтрымліваў у любым месцы: калі ехаў у машыне або метро, калі гуляў па парку або быў заняты важнай справай. Бог заўсёды са мной!



**Улад Мацельскі:**

– У Касцёл я прыйшоў, будучы на трэцім курсе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі якраз на Божае Нараджэнне і якраз перад сесіяй. Што змянілася ў параўнанні з папярэднімі іспытамі? Замест падрыхтоўкі я пачаў палову часу праводзіць у касцёле, і адзнакі ад гэтага нават палепшыліся, бо я ўжо менш турбаваўся наконт усяго. За гэтыя два гады я пазнаў каталіцкае жыццё і пазнаёміўся з добрымі людзьмі. Бог дапамагаў і дапамагае мне ў тым, каб я мог больш увагі звяртаць на жыццё, часцей адчуваць радасць. Малітвы, чуванні, пілігрымкі – гэта тое, праз што я падтрымліваю сувязь з Богам.



**Ягор Парфяновіч:**

– Пяць гадоў праляцела вельмі хутка. Часам на вучобе было цяжка, з'яўляўся страх, што нешта не здам. У такіх выпадках я заўсёды прыходзіў у Касцёл. Цяпер сам здзіўляюся, што выкладчыкі ставілі мне добрыя адзнакі. Здавалася, яны нібыта ведалі, што я папрасіў кагосьці. І ў іх ужо не было выбару. За час навучання я зразумеў, што Бог заўсёды прыходзіў мне на дапамогу, калі я толькі прасіў Яго аб гэтым. І часам складвалася ўражанне, што гэта няправільна, таму што да Яго патрэбна прыходзіць заўсёды, калі ёсць магчымасць, а не толькі па дапамогу. Напрыклад, мне было б непрыемна, калі б мае знаёмыя прыходзілі да мяне толькі ў тым выпадку, калі ім штосьці патрэбна.



**Марта Мацкевіч:**

– У гэтым годзе я стану выпускніцай Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. За гады навучання было шмат добрага і дрэннага, але адно было нязменным: Бог заўсёды прысутнічаў у маім жыцці. Так атрымалася, што галоўны корпус нашага ўніверсітэта знаходзіцца непадалёк ад Чырвонага касцёла. Таму перад экзаменамі я часта заходзіла ў храм, каб памаліцца і папрасіць заступніцтва Маці Божай. Пасля экзаменаў я заходзіла ў касцёл, каб падзякаваць Богу. Акрамя таго, кожную нядзелю і ў святы я наведвала храм. Часам з аднагрупніцамі мы разам хадзілі да споведзі. На першым курсе ў мяне была практыка хадзіць на экзамен з ружанцам або абразком у кішэні. Бог заўжды дапамагаў мне. І дыплом – гэта не толькі мая заслуга, але і маіх бацькоў, выкладчыкаў. І гэта, канешне, дапамога Бога, які заўсёды прысутнічае ў маім жыцці.



**Святлана Трапук:**

– Я з'яўляюся выпускніцай юрыдычнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Часта даводзілася вучыцца днямі і начамі. Але чалавечыя магчымасці, напрыклад, фізічныя і псіхічныя – не бясконцыя. І толькі давер да Бога выратоўваў! Заўсёды ў прыватнай малітве я прасіла ў Бога дапамогі і спаслання Духа Святога, прасіла аб добрых білетах і аб адсутнасці хвалявання. Падчас вучобы вера мая стала мацнейшай таму, што Бог заўсёды выслухоўваў мае просьбы і дапамагаў. Шмат было такіх сітуацый, падчас якіх адбывалася поўнае пераасэнсоўванне жыцця, свайго светапогляду і, на шчасце, гэта ўсё рухалася ў напрамку Бога. Абсалютны давер да Яго даў мне адказы на ўсе пытанні, асабліва наконт будучага. З Яго волі я вызначылася ў жыцці, знайшла працу па сваёй спецыяльнасці, сустрэла на сваім шляху патрэбных людзей, якія мне вельмі дапамаглі, а таксама пазбавілася ад страху перад невядомым. Я б хацела сваім прыкладам паказаць усім маладым людзям, што ў любых, нават вельмі праблемных і цяжкіх абставінах трэба да канца даверыцца Богу і яго плану. Ён заўсёды ведае, што нам неабходна, і заўсёды побач.

## З Днём нараджэння!

***Ксёндз Ян Пугачоў*** *3 чэрвеня адзначыў Дзень нараджэння.*

*Сардэчна віншуем Вас, кс. Ян! Няхай Пан Бог асвеціць шчодрымі ласкамі Ваш зямны шлях, адорыць моцным здароўем, спашле моц, натхненне, цярплівасць! Жадаем таксама шчодрых дароў Духа Святога і апекі Маці Божай. Шчыра дзякуем за малітвы і навукі, за цудоўны голас, за спевы. Няхай побач з Вамі заўжды будуць шчырыя і зычлівыя людзі!*

*Парафіяне касцёла Перамянення Пана ў в. Германавічы*

## З Днём нараджэння!

*Дарагі дружа! Віншую цябе з Днём нараджэння! Жадаю табе шчасця, моцнага здароўя, поспехаў у справах і асабістым жыцці, шчырых сяброў і ўвагі з боку родных. Няхай Дух Святы спадарожнічае табе на ўсіх тваіх шляхах, і хай здзейсняцца твае жаданні і мары!*

*Віншаванне для Іллі Саўчанкі дасылае Таня Вайцяховіч*

## Віншуем!

*Хочам павіншаваць з 40-годдзем былога пробашча Лучайскага касцёла* ***ксяндза Яна Пугачова****.*

*На працягу ўсяго часу з моманту адкрыцця касцёлаў у Беларусі шмат святароў неслі службу у лучайскай святыні, і кожны з іх пакінуў свой след у развіцці касцёла і часцінку сваёй душы. І Вы, ксёндз Ян, таксама. За плячыма ў Вас пяць гадоў службы, аддадзеных лучайскай парафіі.*

*Мы памятаем Вас і жадаем, каб Ваш святарскі шлях заўсёды атуляла Божая ласка і Міласэрнасць. Добрага Вам здароўя і ўсяго найлепшага.*

*Парафіяне Лучайскага касцёла, вёска Коўзаны*

# Першая Камунія

**Варапаева**

**19 мая ў парафіі святога Міхала Арханёла ў Варапаеве ад самай раніцы панаваў святочны настрой. Менавіта ў гэты цудоўны, хоць і дажджлівы дзень 17 дзяцей прынялі першы раз Хрыста ў святой Камуніі. Менавіта ў гэты дзень у малітве за дзяцей з'ядналіся ўсе парафіяне і прысутныя госці.**

**с. Марына Брылёнак**, *тэкст;* **Карына Радзюш**, *фота*

Нарэшце настаў доўгачаканы момант для кожнага дзіцяці, момант, да якога яны рыхтаваліся праз два гады катэхізацыі. Вельмі ўзрушвала прысутнасць бацькоў і хросных вакол хлопчыкаў і дзяўчынак падчас прыняцця імі Цела і Крыві Хрыста. У гэтую самую важную хвіліну яны маглі адчуць еднасць усёй сям'і ў Хрысце.

На заканчэнне адзін хлопчык ад імя ўсіх першакамунійных дзяцей падзякаваў Езусу за тое, што Ён прыйшоў у іх сэрцы і атуліў сваёй ласкай. Пасля бацькі скіравалі да Хрыста словы абяцанняў, што будуць захоўваць веру сваіх дзяцей, а таксама прасілі, каб ніводнае дзіця не адышло ад Касцёла і Бога, каб дзякуючы малітве і веры заўсёды ў іх сем'ях панаваў супакой.

Спадзяёмся, што гэтая ўрачыстасць не будзе толькі звычайным успамінам у памяці кожнага дзіцяці і яго сям'і, але стане пачаткам новага жыцця з Богам Любові і Супакою.

*Так шмат дзён чакаў вас Езус Хрыстус,*
*А сёння прыйшоў і пасяліўся ў сэрцах вашых.*
*Вы запрасілі Госпада ў чысціні сваёй душы,*
*Ён зараз Сябар ваш, не засмучайце вы Яго.*
*Даверцеся Хрысту і будзьце добрымі людзьмі,*
*Дапамагайце ўсім і радасць з усмешкай нясіце!*



# ЖЫВЫ СКАРБ, або Папшыцкая намётка



**19 мая, як і штогод на ўрачыстасць Спаслання Духа Святога на апосталаў, у вёсцы Папшычы Глыбоцкага раёна прайшло парафіяльнае свята. Шмат сабралася людзей. Прыехалі дзеці, унукі ды праўнукі, каб усім разам адзначыць гэта свята і на могілках ушанаваць сваіх продкаў. І ўсё было б па-святочнаму "звычайна", каб не госці з Нацыянальнай акадэміі навук ды Інстытута культуры Беларусі. Але пра ўсё па парадку.**

■ **Дзяніс Філіпчык**

## Перадгісторыя

Вельмі часта мы настолькі прывыкаем да свайго маленькага свету, у якім праходзіць большая частка нашага жыцця, што не заўважаем яго хараства, прыгажосці і ўнікальнасці. Так звыкаемся мы са сваімі роднымі, але такімі "звычайнымі" ўжо святынямі, што не заўважаем іх велічы. Мы часта ўспрымаем добрых, чулых і спагадлівых людзей (нашых суседзяў, блізкіх, а можа, нават і сваякоў) як нешта штодзённае, дадзенае ад пачатку, а таму і нецікавае... І тады пачынаем шукаць новыя ўражанні, знаёмствы, прыгоды і сваё шчасце дзесьці далёка. А роднае нам, часцінка нашага свету пакрысе, паціху адыходзіць у нябыт.

Так здарылася і з вельмі цікавай традыцыяй жыхароў вёскі Папшычы. Штогод на "Зялёныя свёнткі" яны нясуць на могілкі адрэз палатна, які загадзя набывае ўся вёска. Павінны несці яго не абы-хто, а дзеткі. Палатно, якое ўсе вяскоўцы называюць "намётка", асвячае ксёндз, і пасля яно ахвяруецца на патрэбы парафіяльнага касцёла. На намётку кладуць яшчэ і грашовыя ахвяраванні. Вяскоўцы вераць, што, прыносячы гэта палатно, яны робяць ахвяру Пану Бога, а Ён за гэта сцеражэ вёску, ахоўвае людзей ад хваробаў і пажараў. Здавалася б, прыгожы звычай, цікавая традыцыя і не больш, але гісторыя намёткі сваімі каранямі сягае глыбока ў мінулае.

## Гісторыя намёткі

Абрад, які здзяйсняюць жыхары вёскі, у навуковай літаратуры называецца абыдзённым, а палатно – абыдзённікам. Назва абраду паходзіць ад словазлучэння "аб адзін дзень". Сама гэта назва і падказвае, што нешта павінна было адбыцца за адзін дзень. Менавіта за адзін дзень ці за адну ноч вяскоўцам неабходна было выткаць адрэз палатна. Здзяйснялася гэта, каб абараніць вёску ад небяспекі: хваробы, пажару, засухі ці нават вайны.

На працягу ўсяго XIX ст. выраб абыдзённага палатна быў даволі пашыранай практыкай. Выраблялі абыдзённік яшчэ і ў першай палове XX ст., асабліва падчас Другой сусветнай вайны. Паступова абрад гэты адыходзіць у нябыт і застаецца пераважна ў пасіўнай форме – у памяці людзей. У в. Папшычы абыдзённы абрад захаваўся да цяперашняга часу і ператварыўся ў сталую штогадовую практыку.

Хутчэй за ўсё, да абыдзённага абраду ў Папшычах звярнуліся на мяжы XIX і XX стст. Уладзімір Ткачонак, 1913 г. н., сцвярджае, што і ён сам, і яго бацькі насілі намётку. Ірына Антонаўна Раманчук, 1943 г. н., расказвае: "Гэта мая мама памёрла ў... восемдзесят тры гады её было. Яна сямнаццаць гадоў як памёрла. І ўжо яна ведала аб гэтым змала. І яна жыла сама аж у Сапеліне, і ўсё гэта ёй было расказана. І гэта бацькі яе зналі, што ў гэтай вёсцы гэткая вера..." Атрымліваецца, што аб здзяйсненні дадзенай практыкі ведалі ў суседніх вёсках, дзе абыдзённы абрад на той час не выконваўся. Далей інфармантка дадае, што яе маці перайшла ў Папшычы ў шаснаццацігадовым узросце (1928 г.) і ўжо ведала пра існаванне абраду.

Падчас Першай сусветнай вайны ў вёсцы размяшчаліся царскія войскі, а пасля, паводле сведчанняў старажылаў, сюды даходзілі нямецкія раз'езды. Адна з эпідэмій, з тых, што ўзнікалі падчас ці пасля войнаў, магла стаць тым катаклізмам, які і выклікаў да жыцця абыдзённы абрад.

## Легенда

Амаль заўсёды, калі мы сутыкаемся з гісторыяй нашай роднай зямлі, рана ці позна сустракаемся з цікавай легендай. Не абышлося без падання і ў Папшычах. Вось што мы пачулі ад Марыі Францаўны Кушнярэвіч, 1941 г.н.:

*"Нашто носяць, гэтак нашыя бацькі казалі. Ну, гэта яшчэ не ведаю, да вайны, ці нават раней, страшная хвароба была – халера. Усіх людзей усюды касіла, не было ад яе паратунку для жывой душы.*

*Ну, што рабіць? Ужо тут, блізка, падступае хвароба да Папшычаў. Сабралася вёска, параіліся людзі ці падказаў ім хто, але за ноч выткалі палатно. Ну, якое там што ў каго было, знеслі па нітачцы і выткалі.*

*І што рабіць? Ля вёскі была дарога кругом. Даўней наўкола вёскі хадзілі. Ну, сабраліся ўсе і пайшлі гэтай дарогай. І ружанец, і малітвы – і пайшлі круга вёскі ўжо прасіць Бога, каб абараніў ад гэтай халеры.*

*І праз некалькі дзён – цішыня. Ніхто ўжо не паміраў у Папшычах. У Зялеськах уміралі, там, недалёка, гэта вёска. Уміралі, уміралі. Тады некаму са старых у Зялеськах сасніўся сон, а ў ім – хвароба. Кажа ёй стары: "Чаго ты прычапілася?! Ідзі ў Папшычы!" А хвароба адказвае яму: "Не пайду. Там рыжы сабака круга вёскі лётае".*

*Ніхто не памёр у Папшычах, а з таго часу пачалі людзі ткаць гэту намётку кожны год, каб сцярог Бог вёску і яе жыхароў ад усялякага ліха".*

## Сэнс ахвяры

Для назвы працэсу вырабу абыдзённага палатна ў розных частках Беларусі ўжываюцца наступныя азначэнні: "обрэкаліся", "оброк", "обрэкліса", "абракаліся", "жертву делалі", "ахвяраваліся". У жыхароў в. Папшычы існуюць дзве назвы для пазначэння самога працэсу. Першая адлюстроўвае бачны бок абраду і гучыць як "насіць намётку". Калі ж справа даходзіць да высвятлення мэты дадзенага справы, то ўжываюць слова "афяраваліся": *"І людзі рашылі гэткую афяру. Хто ім пасаветаваў ці яны самі. І выткалі за ноч палатна кусок і круга вёскі абхадзілі. І тады ў касцёл на алтар насілі намётку, у Мосара. Парафія ж мосарская. Людзі афяраваліся ўжо гэдак выткаць гэту намётку. Ну і тады збіраліся і абхадзілі кругом вёскі з гэтай намёткай".*

У свядомасці людзей вельмі моцна жыве ўяўленне аб тым, што стварэнне абыдзённага палатна з'яўляецца ахвярай. Раней ахвярай Богу было само палатно. Палатно, якім абносілі вёску з працэсіяй, заносілі на могілкі, а пасля – у парафіяльны касцёл у в. Мосар. Клалі на намётку ахвяраванні: *"Ну і тады гэту намётку няслі з вёскі, ад крыжа няслі аж на магілкі. Афяру складалі на гэту намётку. Ну і вот ад гэтага гэта намётка гэдак і вядзецца". "Гэта афяра. Даўней што там было? Воўны кузмак, там яек сколька... Як я помню, малая была, грошы ж не было. Ну, афяра. Там масла, што там паложуць. На намётку клалі".*

Каштоўным з'яўляецца сведчанне аб здзяйсненні абраду і ахвяраваннях на намётку ў гады калектывізацыі ў Заходняй Беларусі: *"Ну, клалі. Даўней клалі, як першыя гады калхоз быў, на трудадні... Там некаторыя і масла клалі, і сыры клалі, і воўну клалі, і яйкі. У каго што было, тое клалі".*

Раней палатно клалі на алтар у касцёле: *"Тады закладалі на алтар. Ну, вот дзве дзяўчынкі там якія. І гэта палатно ляжыць, можа, да Яна. Ну, аставалася. Не мылі. Пасля, можа, комжы шылі ці што якое там нада на службы касцельныя. ... Даўней карункі рабілі, прышывалі сваімі рукамі, бо на алтар жа".*

На сённяшні дзень простае белае палатно набываюць, а ахвяру складаюць грашыма: *"Аддаюць намётку. Настольнікі робяць на алтар, на іхнія патрэбы. Кажды год купляецца новая. А даўней ткалі яе. Уся вёска, хто што даваў. І гэту намётку ткалі за дзень, за ноч. Купляем цяпер..."* Прычым кожны вясковец абавязкова павінен пакласці грошы, бо гэта ахвяра ўспрымаецца не як персанальная асобнага чалавека, а як калектыўная ўсёй вёскі.



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**16 чэрвеня 2013 г.** **Лк 7, 36-50**

Са сваім грахом трэба найперш ісці да Езуса. Не пытаца, што скажуць іншыя. Прыпадаць да ног Пана. Любіць Яго, бо Ён адпускае нам нашы грахі. Дазволіць Яму з пяшчотай прытуліць нас. Навяртанне – гэта не толькі адкіданне старых грахоў, але найперш зварот з вялікай любоўю да Езуса. Гэта вера ў Яго, у Яго перамогу над маім грахом і Яго міласэрную любоў да мяне, грэшнага. Гэта слёзы бездапаможнасці, праліты на ногі Езуса. Гэта інтымная просьба да Езуса аб дапамозе. Слёзы перамешваюцца з крывёй Езуса, якая цячэ з Яго прабітых ног. Гэта гатоўнасць цалкам аддацца Езусу і жаданне Яго ўславіць. Гэта поўнае аддаванне Яму сваіх каштоўнасцей, бо Ён – Найкаштоўнейшы. Наша любоў расце, калі сваю слабасць прыносім да Яго. Не баймся споведзі.

*– Як паводжу сябе, калі заўважаю ў сабе грэх, слабасць, спакусы, заганы?*

*– Ці не ўцякаю ад Езуса і ад тэмы?*

*– А можа, іду з праблемай да Езуса і да спавядніцы?*

*– Ці вядзе мая бездапаможнасць і слабасць да Езуса?*

*– Ці шукаю аздараўлення ў Езуса?*

*– Ці памятаю, што ў споведзі Езус лечыць хворае сэрца?*

*– А можа, толькі шкадую сябе і пешчу сваю параненую пыху?*

*– Якая мая вера? Асабліва ў хвіліны выпрабаванняў?*

*– Ці плачу, схіліўшыся да Езусавых ног, над сваім грахом?*

*– А можа, спрабую шаптаць Езусу на вушка, што Ён не разумее, Ён памыляецца і я не маю такіх грахоў?*

*– Ці ўзнагароджваю за свае грахі?*

*– Ці адбудоўваю дабро за зло, якое ўчыніў?*

*– Якія каштоўнасці майго жыцця гатовы аддаць Езусу?*

*– Як выглядае мая споведзь?*

**23 чэрвеня 2013 г.** **Лк 9, 18-24**

Кім у нашым жыцці з'яўляецца Езус? Калі нават так, як Пётр, штосьці ведаем пра Езуса, гэта не значыць, што ўсё разумеем. Яго дарога, планы і рашэнні пераастаюць нас, маленькіх. Ён выхоўвае нас і дапамагае духоўна ўзрастаць. Трэба кожны дзень выракацца самога сябе і таго пераканання, што гэта мы самі вядзём сябе па жыцці і нават мудрэйшыя за самога Бога. Кожны дзень мы павінны пытацца пра Яго волю. Браць дадзены нам крыж і ісці за Езусам. Гэта дарога жыцця. Інакш можам самі сябе забіць да смерці.

*– Ці пытаюся ў сябе, кім для мяне з'яўляецца Езус?*

*– Можа, перакананы, што ўсё ведаю і ўсё разумею?*

*– Ці памятаю пра тое, што Яго воля больш мудрая, чым я здольны зразумець?*

*– Ці давяраю Яму?*

*– Ці вучуся ад Бога мудра глядзець на жыццё?*

*– Ці прашу пра дар мудрасці?*

*– Ці шукаю Яго волі?*

*– Ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці бяру з гэтага разважання штосьці канкрэтнае для свайго жыцця? Штосьці, што з'яўляецца Божай воляй для мяне?*

*– Ці раблю рахунак сумлення?*

*– Ці бяру штодзённа крыж Яго волі на свае плечы?*

*– Ці разумею, што без выканання Яго волі заўжды сам сябе ў пекла?*

**30 чэрвеня 2013 г.** **Лк 9, 51-62**

Ідзём па жыццёвай дарозе за Езусам – праведнікам Бога. Пытаемся, як жыць. Трэба перарваць ланцуг нянавісці, падобны да таго, што звязваў жыдоў і самарыцян. І ў нашым жыцці бываюць такія повязі нянавісці. Перарваць іх можна толькі лагоднасцю і любоўю, а не сілай. Без выдалення з сэрца нянавісці немагчыма наследаваць Езуса. Ісці за Езусам – гэта пагадзіцца на ціхае прыняцце крыжа. Быць як Ён. Ісці за ім – гэта ведаць, што лёгка не будзе. Калі ісці за Езусам, то цалкам, а не часткова. Ісці за Езусам – гэта значыць, станавіцца новым чалавекам. Тады распачынаецца новая якасць жыцця, якім кіруе Езус, а не мы.

*– За кім, за чым іду, бегаю ўсё сваё жыццё?*

*– Ці мой праваднік – Езус?*

*– Ці свае жыццёвыя рашэнні прымаю згодна з Яго дарогамі або кірууюся меркаваннямі свету?*

*– Іду за Ім ці спрабую "цягнуць" Яго за сабой?*

*– А можа, вучу Яго, як Ён павінен весці мяне да неба?*

*– У якіх свецкіх працэсах, канфліктах, нянавісцях удзельнічаю?*

*– Ланцугі якой нянавісці падаўжаю?*

*– Што раблю, каб вырвацца з гэтых путаў?*

*– Як планую сябе паводзіць?*

*– Дзе патрэбныя мае лагоднасць, прабачэнне, цярплівасць і дыстанцыя?*

*– Ці прашу Езуса пра мудрае развязванне гэтых путаў?*

*– Ці, ідучы за Езусам па жыцці, гатовы пераносіць з Ім цяжкасці?*

*– Ці іду там, дзе Ён мяне вядзе?*

**7 ліпеня 2013 г.** **Лк 10, 1-12, 17-20**

Езус прыйшоў у свет, каб паяднаць нас з Айцом. Бог хоча, каб мы былі ў еднасці з Ім. Каб мы будавалі Божае Валадарства, г.зн. Жыццё Бога ў нас і паміж намі. Хоча, каб мы ўдзельнічалі ў вечным шчасці. Шатан перашкаджае планам Божай любові. Нападае на чалавека, часцей за ўсё праз спакусы. Хоча адвесці чалавека ад дарогі любові. Адбываецца духоўная барацьба за людскія душы і Божае Валадарства ў іх. Езус – Пан і Пераможца. Але калі чалавек не прымае Езуса, то застаецца безабаронным супраць ненавіснага драпежніка, які яго знішчае. Трэба прымаць Езуса да свайго жыцця і прымаць Яго запрашэнне, якое Ён дае нам праз сваіх пасланцоў, г.зн. Святы Касцёл.

*– Ці не спрабую служыць двум гаспадарам?*

*– Ці змагаюся за еднасць з Езусам?*

*– Ці дбаю пра чыстасць сэрца, каб прымаць Святую Камунію?*

*– Ці разумею, што без Езуса ў сэрцы – я безабаронны?*

*– Ці разумею, што праз чары, магію, жыццё ў цяжкім граху адчыняю шатану дзверы ў сваё сэрца?*

*– Ці хачу жыць у любові?*

*– А можа, хочу толькі, каб мне было добра і спакойна?*

*– Ці ўдзельнічаю ў барацьбе за сваю душу?*

*– Ці трываю пры Езусу?*

*– Ці прымаю Божыя натхненні?*

*– Ці карыстаюся Божымі ласкамі?*

*– Ці клапачуся пра душы маіх братоў?*

*– Ці разумею трагічныя наступствы таго, што не прымаю Езуса да свайго сэрца?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

## Працэсія

Этнографы зафіксавалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі асаблівасць, калі стварэнне абыдзёнага палатна жанчынамі спалучалася з вырабам мужчынамі крыжа ці некалькіх крыжоў і наступнай іх устаноўкай у вёсцы. У Папшычах ні адзін з вяскоўцаў не адзначыў такой асаблівасці.

У адрозненне ад месца пачатку абраду, якое захавалася нязменным, месца прызначэння і маршрут працэсіі з цягам часу змяняліся. Спачатку палатно абносілі вакол вёскі, а пасля пачалі насіць на могілкі і ў парафіяльны касцёл: *"Ну і тады збіраліся і абхадзілі кругом вёскі з гэтай намёткай. А цяпер ужо, як даўней гэта, і тады на магілкі. На магілкі ўжо і ксёндз прыязджаў, гэта ўжо на Зялёныя свёнткі. Ну і тады гэту намётку няслі з вёскі, ад крыжа няслі аж на магілкі".*

У памяці людзей захавалася і тое, як іх успрымалі жыхары іншых вёсак, дзе падобны абрад не здзяйснялі: *"Пехатой ішлі ўсе ў касцёл, у Мосара. І мы, малыя, босыя, і нам ваду выносяць у Лужках, там піць. Ідзём, а ўжо знаюць. Званы звоняць. Пераймаюць нас. Ксёндз быў стары, выйдзіць, сустракае, свенціць".*

Здзяйсняўся абрад і ў савецкі час, нягледзячы на забароны і штрафы, якія выплочвала пасля ўся вёска. Намётку таемна неслі на могілкі, а адтуль у в. Мосар. Марыя Уладзіміраўна Пятрага сведчыць: *"Гэта ж было даўна. Як я прыйшла, тут усе рабілі, і я тое".* Пасля дадае, што прыйшла ў вёску ў 1962 г.

Новы перыяд у існаванні абрада пачынаецца ў канцы 1980-ых – пачатку 1990-ых, калі ў Мосар прыязджае ксёндз Ёзас Булька: *"А пасля прыйшоў Булька, і гэта ўсё абнавілася. Як ужо Булька явіўся сюды, усё ўзнавілася".*

### Што будзе?

Людзі захавалі сваю веру ў часы ваенных ліхалеццяў. І ў пасляваенныя цяжкія, бедныя ды галодныя гады ў Папшычах не адступіліся ад гэтага звычаю. Не зракліся яго і ў савецкі час змагання з рэлігіяй. Але сёння... Сёння, калі мы жывём у камфортных умовах у буйных "мегаполісах" ці невялікіх аграгарадках, сёння, калі нам ніхто не перашкаджае ведаць сваё мінулае і ўласныя карані, мы страчваем сваю гісторыю.

Не засталося ў вёсцы маленькіх дзяцей, усё менш і менш з кожным годам бабулек... Нехта лянуецца прыехаць з горада ці з Удзела да крыжа і прайсці гэты шлях, а нехта ўжо і не разумее, навошта насіць гэту намётку.

Таму і паўстала ідэя ўключыць абыдзёны абрад жыхароў вёскі Папшычы ў Дзяржаўны спіс нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь. Менавіта з гэтай мэтай сёлета ў Папшычы была здзейснена этнаграфічная экспедыцыя, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, Інстытута культуры Беларусі і студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Для ўключэння ў гэты спіс абрад на аўтэнтычнасць павінны ацаніць эксперты. Што дае гэта ўключэнне? Абрад будзе ўзяты пад ахову дзяржавай, якая бярэ на сябе адказнасць за падтрымку, захаванне і вывучэнне гэтага рытуалу.




Зразумела, што захаваць папшыцкую намётку можна толькі агульнымі намаганнямі. Наша гісторыя і наша спадчына павінна быць патрэбныя, найперш, нам і толькі пасля ўжо ўсім астатнім – гасцям, турыстам, навукоўцам. Што можа прымусіць выхадцаў з Папшычаў, якія пераехалі жыць у аграгарадок "Удзела" ці ў Глыбокае, не паленавацца? Што можа прымусіць іх устаць раней, узяць сваіх дзетак і прыехаць на сваю малую радзіму, каб там ад прыдарожнага крыжа праз усю вёску пранесці намётку? На жаль, я не ведаю адказу на гэтае пытанне... Час расставіць усё на свае месцы і пакажа, ці вартыя мы таго, што пакінулі нам у спадчыну нашы продкі.

***

Аўтар гэтых радкоў выказвае шчырую падзяку ўсім жыхарам вёскі Папшычы, якія адгукнуліся на яго просьбу і згадзіліся даць інтэрв'ю:
*Кушнярэвіч Марыі Францаўне,*
*Ткачонкам Уладзіміру і Ядвізе,*
*Пятразе Марыі Уладзіміраўне,*
*Раманчук Ірыне Антонаўне,*
*Жолуд Аліне Генрыхаўне,*
*Саколцы Ядвізе Вінцэнтаўне.*

Выказваем таксама падзяку айцам-францысканцам, што служаць у в. Удзела (а. Ян Валяр'ян Хернік, а. Яраслаў Банасяк, а. Вальдэмар Куява) і ўсім тым, хто займаўся прыёмам і размяшчэннем этнаграфічнай экспедыцыі ў в. Пятроўшчына, асабліва:
*Арэхавай Алене Аляксандраўне,*
*Арэхавай Валянціне Францаўне,*
*Арэхаву Аляксандру Сяргеевічу.*

Шаноўныя чытачы "Каталіцкага весніка", калі Вы ведаеце аб тым, што падобны абрад здзяйсняецца (здзяйсняўся) у вашай ці суседніх вёсках, просьба паведаміць аб гэтым рэдакцыі або аўтару артыкула. Разам захаваем нашу спадчыну!

**Кантакты:** Дзяніс Філіпчык, +37533 6976011 (МТС), e-mail: fdv91@mail.ru

# Увага! Падпіска на другое паўгоддзе 2013 года!

**Дарагія сябры!**

Пачалася падпісная кампанія на другое паўгоддзе 2013 года.

Заахвочваем вас, дарагія нашы чытачы, падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Кошт падпіскі на месяц – **3000 рублёў**, на тры месяцы – **9000 рублёў**, на шэсць месяцаў – **18000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

Наш падпісны індэкс 63783

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Будслаў 2013:
## план святочных мерапрыемстваў

Юбілейны фэст, прысвечаны 400-годдзю прабывання абраза Маці Божай у Будславе, адбудзецца 5 - 6 ліпеня. Сёлетнія ўрачыстасці пройдуць пад дэвізам **"Марыя – Маці нашай веры"**.

Духоўная падрыхтоўка да юбілею распачалася яшчэ тры гады таму і праходзіла пад дэвізамі: **"Марыя – выбраная дачка Бога Айца"** (2010 г.), "Марыя – святыня Духа Святога" (2011 г.), **"Марыя – Маці Збаўцы"** (2012 г.).

Важным акцэнтам сёлетняга юбілею стане завяршэнне перэгрынацыі копіі цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай па дыяцэзіях Беларусі. У прысутнасці папскага легата ў Будславе з гэтай нагоды будзе асвечаны крыж і памятны знак. Таксама падчас урачыстасці ў Будслаў прыбудуць рэліквіі св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус.

### 5 ліпеня, пятніца

**13.00 - 17.00** – сустрэча і прывітанне пілігрымаў захавальнікам санктуарыя;

**16.00** – прынясенне копіі абраза Маці Божай у Будслаў;

**17.45** – прынясенне рэліквій св. Тэрэзы з Лізьё (размяшчэнне на алтары);

**18.00** – Святая Імша для пілігрымаў з удзяленнем сакраманту канфірмацыі (алтар на сцэне);

**20.30** – Марыйныя Нешпары (алтар на сцэне);

**21.00** – Крыжовы шлях вакол парку;

**22.30** – Акафіст у выкананні хору Грэка-Каталіцкай Царквы (алтар на сцэне);

**23.00** – рахунак сумлення (алтар на сцэне);

**23.40** – падрыхтоўка да працэсіі; унясенне прадстаўнікамі чатырох дыяцэзій копіі абраза Маці Божай Будслаўскай, якая пілігрымавала па Беларусі;

**24.00** – працэсія з копіяй абраза Маці Божай вакол парку, пасля – Святая Імша (алтар на сцэне).

### 6 ліпеня, субота

**02.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту (праводзіць моладзь у касцёле);

**02.00** – Святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду (алтар на сцэне);

**02.00** – моладзевая праграма ў намётавым мястэчку;

**05.30** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі і заканчэнне адарацыі ў касцёле;

**06.00** – Святая Імша на польскай мове (цэлебруюць айцы-бэрнардзіны ў касцёле);

**07.30** – Ружанец (алтар на сцэне);

**09.00** – Святая Імша (алтар на сцэне);

**10.45** – асвячэнне папскім легатам крыжа і памятнага знака з нагоды 400-годдзя прабывання абраза Маці Божай у Будславе;

**11.00** – галоўная Святая Імша (алтар на сцэне). Выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту. Эўхарыстычная працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай і рэліквіямі св. Тэрэзы. Акт прысвячэння Беларусі Беззаганнаму Сэрцу Марыі.

Пасля Імшы адбудзецца гашэнне маркі, выдадзенай з нагоды будслаўскага юбілею.

У праграме магчымыя змены.

*Паводле catholic.by*



# З Богам у будучыню

**Чэрвень – гэта месяц, калі школьнікі Беларусі перажываюць час экзаменаў і выпускных баляў. Асаблівая ўвага надаецца хлопцам і дзяўчатам, якія заканчваюць адзінаццаты клас. Бо ў іх жыцці павінен пачацца чарговы этап. Крок, які вядзе ў самастойнае жыццё. Таксама гэта вельмі адказны для іх момант, бо яны выбіраюць свой жыццёвы шлях, выбіраюць не толькі навучальную ўстанову, дзе будуць вучыцца наступныя гады, але перадусім выбіраюць прафесію, у якой змогуць рэалізавацца самі і служыць іншым людзям.**

■ **с. Марына Брылёнак**, *тэкст;* **Карына Радзюш**, *фота*

У Пастаўскай парафіі Святога Антонія і Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі існуе прыгожая традыцыя, згодна з якой выпускнікі прыходзяць у святыню, каб прасіць аб Божым Бласлаўленні на гэты адказны этап жыцця.

І вось пасля здадзеных экзаменаў 11 чэрвеня ў пастаўскім касцёле сабраліся на ўрачыстую Імшу выпускнікі разам са сваімі бацькамі і настаўнікамі, каб дзякаваць за гады школьнага навучання і давяраць Богу сваю будучыню. У гаміліі кс. Вадзім Прасяной SCJ, які канцэлебраваў Эўхарыстыю, звярнуў увагу хлопцаў і дзяўчат на ўдзячнасць, што яны павінны мець да сваіх бацькоў і настаўнікаў. Сказаў, каб заўсёды памяталі, што бацькі з'яўляюцца іх апорай і да іх можна звярнуцца ў кожную хвіліну і з кожнай праблемай. Зазначыў таксама, каб не забываліся, адкуль яны паходзяць, памяталі пра свой родны куточак.

Пасля Імшы ўсе з усмешкамі на твары выходзілі са святыні, ведаючы, што даверылі сваё жыццё ў добрыя рукі Самога Бога Айца.

Жадаем усім выпускнікам гэтага года, каб ішлі па жыцці з Богам у сэрцы, памяталі пра Яго любоў і гэту сапраўдную Любоў неслі іншым. Каб сэрцы напаўнялі радасць і дабрыня, якімі маглі б дзяліцца з кожным, каго спаткаеце на сваім шляху, каб цяжкасці пераадольвалі з надзеяй на светлую будучыню.



# Аазіс маладосці

**Штогод у парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах праводзяцца "Канікулы з Богам". Гэта дзесяць дзён, калі дзеці розных узростаў разважаюць над словам Божым.**

■ **Вераніка Далжук**

Сёлета тэмай аазісу з'яўляецца стварэнне свету. Мэта летніка – дапамагчы зразумець дзецям тую прыгажосць, якая знаходзіцца вакол нас, і навучыцца быць удзячнымі Стваральніку за цуд, што называем жыццём. Кожны асобны дзень мы засяроджваемся над адным з шасці этапаў стварэння свету. Слухаючы цікавыя канферэнцыі, працуючы разам у групах, мы больш глыбока ўсведамляем словы Святога Пісання.

Амаль 70 дзяцей у гэтым годзе прымаюць удзел у летніку. Вельмі цешыць тое, што многія са старэйшых, сярод якіх шмат і бацькоў гэтых дзяцей, дапамагаюць у розных працах, звязаных з адпачынкам. Аніматары – гэта моладзь, якая калісьці сама прымала ўдзел у летніку, а цяпер з вялікай адказнасцю і радасцю паставілася да новых абавязкаў. Такі падыход доказвае, што справа адпачынку турбуе не толькі душпастыраў і сясцёр нашай парафіі, але і саміх парафіянаў.

Таксама на аазісе праводзіцца шмат гульняў, конкурсаў, выездаў на прыроду, што спрыяе яднанню дзяцей.

Ацэньваючы зробленае, мы бачым, што праца, праведзеная на працягу некалькіх гадоў, пачынае даваць свой плён. Дзеці становяцца больш дружнымі, міласэрнымі, інакш пачынаюць ставіцца адно да аднаго, да бацькоў, да старэйшых, да працы, да сваіх абавязкаў. Канешне, гэта не можа не радаваць, таму і ў наступным годзе дзеці парафіі Святой Тройцы (і не толькі) змогуць прыняць удзел у Дзіцячым аазісе ў Докшыцах.

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4594

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 4000 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 13.06.2013 г. у 02.48

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621
9772224962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ